Газета Слонімская
24 — 30 чэрвеня 1999г., № 26 (107)

# НА ТЫМ СВЕЦЕ ПАМІРАЦЦА

Аднойчы паштальён Яўхім Палхоўскі прынёс у хату Леанарды Бандаковай сумную вестку: яна болей не будзе атрымліваць грашовай дапамогі за загінуўшага ў вайну мужа. Яўхім патлумачыў жанчыне, што Іван Брус, які да вайны служыў з яе мужам у адным падраздзяленні, паведаміў нядаўна ў ваенкамат, што яе Пятрусь не загінуў на фронце, а быў расстраляны па прыгавору ваенна-палявога суда за тое, што адмовіўся браць у рукі зброю, бо быў хрысціянінам-баптыстам.

Жанчына абышла ўсе раённыя ўстановы, але дапамогу на мужа ніхто не аднавіў. Пасля гэтага сяляне вёскі Рабінаўка заўважылі, што Леанарда захварэла, твар яе стаў жоўтым, вочы пачалі слязіцца. Яна перастала сустракацца і размаўляць з суседзямі.

Аднойчы зранку яе ўбачылі на аўтобусным прыпынку за вёскай.

— Нарэшце надумалася, мусіць, паехаць Леанарда да дактароў, — казалі суседзі - жанчыны. — Можа пакладуць у бальніцу, падлечаць, то і пажыве яшчэ трохі.

Аднак пад вечар Леанарда выйшла з аўтобуса Зэльва-Слонім і паціху накіравалася дамоў. Найбліжэйшая яе суседка Маня Акрайчык запытала, ці была Леанарда ў дактароў? Але тая, бразнуўшы дзвярыма, моўчкі зайшла ў хату. Седзячы за старэнькім скрыпучым сталом, яна цэлы вечар думала пра тое, што расказала ў ваенкамаце. Пасля супакоілася, бо вырашыла, што ўсё ж паступіла правільна, хаця і не зусім па-хрысціянску.

Леанарда добра памятала, як прыкладна праз месяц пасля пачатку вайны, у жніўні 1941 года, Іван Брус нечакана з'явіўся ў вёсцы, а праз тыдзень нечакана знік. Толькі ў 1945 годзе яго зноў убачылі на вясковай вуліцы з мноствам медалёў на грудзях. Леанарда, як і некаторыя іншыя вяскоўцы, ведала, што Іван на фронце не быў, а ўсю вайну хаваўся на хутары ля Зэльвы. Але кожны год на свята Перамогі Брус чапляў на пінжак безліч невядома дзе ўзятых медалёў і ішоў у мясцовую школу расказваць дзецям, як ён храбра змагаўся з фашыстамі.

Як ветэрану вайны, яму ў вясковай краме прадавалі прадукты па ільготнай цане, а праўленне калгаса не забывала выдаваць грашовыя прэміі.

Усяго з месяц пажыла Леанарда пасля паездкі ў райцэнтр і ціха памерла. А неўзабаве раптоўна памёр і Іван Брус. Даведаўшыся, што Леанарда паведаміла ў ваенкамат, дзе ён быў пад час вайны, Брус за некалькі дзён аслабеў, абмяк і праз некаторы час яго знайшлі нежывым на лаве.

Вяскоўцы пахавалі Івана побач з Леанардай. Вяртаючыся з могілак, сяляне казалі:

— Можа на тым свеце паміраццa?

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# НАУЧНЫЙ РАСЧЁТ

**Оказывается, учёные рассчитали, что по минимуму мужчине положено носить в течение года 7 пар носков, не больше 5 маек на три года, 5 трусов — на два года.**

Подобные расчёты провели сотрудники Республиканского научно-практического центра по эксперт-ной оценке Положения прожиточного минимума для белоруса с учётом сегодняшнего экономического положения. Кроме того, мужчине положено: одна шапка из искусственного меха на 7 лет, двое пар ботинок — на 5 лет, одни резиновые сапоги на 10 лет и т.д. Студент же имеет право иметь не болee одной куртки на синтепоне в течение 9 лет, одного костюма на 5 лет, трёх сорочек на 4 года, а также одной шариковой ручки и трёх простых карандашей на один год.

По утверждению учёных, на одного человека вполне достаточно: одна упаковка иголок — на 15 лет, ножницы — на 8 лет, два лезвия для бритья — на год, валидол и валерьянка — 4 упаковки на год, 4 мочалки и 4 зубные щётки на одного человека в год.

Подсчитано, конечно, сколько и чего человек должен есть, чтобы не умер. В частности, мужчина для поддержания своего тела и духа обязан в сутки выкушать 9,9 гр. огурцов, 21,1 гр. помидоров, 8,5 гр. животного масла, 4,9 гр. сметаны, 32,7 гр. творога, 0,4 гр. яйца, 3,8 гр. колбасных изделий и копчёностей, 5,2 гр. солёной рыбы, 302,2 гр. ржаного хлеба, 351,6 гр. картофеля и других разных продуктов в строгой вымеренной пропорции. Правда, сколько человеку нужно выпить водочки, выкурить табачку наука в данном случае почему-то умалчивает.

**Наталья ФУРСОВА**



Фота Мікалая СУПРУНА

*Сейчас все стремятся к воде*

# ВЯЧЭРА

Як звязаўся Міхась Кандыба з чаркай, дык не стала жыцця ні суседзям, ні, асабліва, яго жонцы Міхаліне. Вечна п'яны, ён не даваў праходу ні малому, ні старому, чапляючыся да ўсіх.

— Не магу болей жыць з гэтым ідалам, — жалілася Міхаліна суседцы. — Цярпела, пакуль дзеці малыя былі, а зараз хопіць. Скасую шлюб і буду жыць сама сабе.

— Не, Міхалінaчка, гэта не выхад, — сказала суседка. — З хаты ты яго не выганіш, а табе як была згрызота, так і будзе.

Так і разышліся. А вечарам яе аболтус — з абразамі і з кулакамі, і цяпер ёй зноў трэба начаваць у хляве. "Атручу, — мільганула маланкай думка ў галаве змучанай жанчыны. — Ён столькі пакут прынёс мне і дзецям".

Раніцай прабралася ў хату, дзе, як калгасны бугай, хроп Міхась. Уходжваючыся па гаспадарцы, Міхаліна ўсё прыкідвала, як ажыццявіць задуманае. Быў разгар лета. Яна назбірала паўкаша мухамораў і паганак. Потым гэту атруту належным чынам прыгатавала і нават упрыгожыла. І стала чакаць Міхася, якога перад гэтым прасіла прыйсці ў час і не напівацца, маўляў, вельмі важную справу трэба вырашыць вечарам.

Нарэшце ён прыйшоў, трохі на падпітку.

— Ну, дык што там у цябе за справа, вяроўка? — выскаліўся ён на Міхаліну.

— Вось вячэру згатавала, колькі ўжо можна: усё паасобку ды паасобку, — не зважаючы на абразу, загаварыла жанчына. — А каб не на суха было, я табе і бутэльку пастаўлю. Лепш у хаце выпіць, чым дзесьці за вуглом.

Паглядзеўшы з-пад ілба на жонку, Міхась, пакумекаўшы, прасіпеў:

— Што, атруціць мяне хочаш, макароніна сухая?

— Ды што ты, Міхаська, я і сама з табой чарачку вып'ю.

— А, то добра, налівай, — павесялеў Міхась.

Міхаліна наліла па чарцы, і яны, стукнуўшыся, выпілі.

— Прыкусвай, Міхаська, вось грыбкоў табе свежанькіх сабрала, еш, — зашчабятала Міхаліна, камечачы ў руках хлеб.

Міхася не трэба было ўпрошваць есці. Мянціў мухаморы, ажно за вушамі трашчала. Наліў яшчэ чарку, потым яшчэ.

— Вось каб ты заўсёды такая была, ластаўка мая, — спрабаваў жартаваць Міхась. — І пляшачку паставіла, і такой смакатой накарміла. А калі і спаць са мной пойдзеш, то зусім добра будзе.

— Пайду, пайду, — згадзілася Міхаліна, а сама думала, ці хутка падзейнічаюць мухаморы.

Але Міхась адчуваў сябе добра, і атрута ніяк на яго не дзейнічала. Хіба што неяк дзіўна і незвычайна было, што Міхась абняў яе і яны пайшлі спаць разам, першы раз за некалькі гадоў, нібы тыя маладажоны. Дзіўная і незвычайная была гэта ноч для Міхаліны...

На досвітку, прачнуўшыся ў абдымках мужа, Міхаліна пачала абмацваць Міхася, думаючы, што той ужо ахаладаў. Але муж спаў сабе, нібы пшаніцу прадаўшы, і ў сне ўсё абдымаў жонку. Міхаліна прытулілася да яго грудзей, сціснулася і ляжала так, успамінаючы, што было і ў іх некалі шчасце, і каб не гарэлка, дык Міхась не такі ўжо і благі муж.

Пасля той ночы нешта стала з Міхасём. Ён зрабіўся больш пяшчотны, хоць зрэдку і прыходзіў дамоў на падпітку, але не чапляўся ні да кога, а Міхаліну ніколі не абразіў, не аблаяў, слухаўся, як дзіця. Ды і Міхаліна, сама адчувала, неяк змянілася, нібы прыйшла другая маладосць. І не раз ёй у галаву набягала думка, што ж было б, калі б яе чорная задума здзейснілася? Разам з тым, яе разбірала цікаўнасць: чаму не падзейнічала яе атрута?

І толькі праз некаторы час даведалася, што мухаморы ў спалучэнні з гарэлкай губляюць сваю чорную ўласцівасць. "Гэта лёс", — думала Міхаліна. І як бы там не было, яна зноў жыла са сваім Міхасём, і жыццё ўсё больш наладжвалася.

**Святлана БОЛЦІК**



Малюе Кірыл Ф.




## ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ



■ Металлические пуговицы не потеряют блеска при ношении, если предварительно их смазать бесцветным лаком, подложив картонку.

■ Если цветы начинают увядать, обрежьте стебелек и положите на ночь в ванну, наполненную водой. Утром букет оживет.

■ Если гости курят в комнате, зажгите свечу — ее пламя частично очистит воздух. Свеча горит ровнее и дольше, если возле фитиля положить несколько кристаллов соли.

■ На поверхности раковины или ванны от воды остаются ржавые пятна. Их можно ликвидировать, протерев нагретым уксусом, в который добавлено немного соли.

■ Вилки и ножи положите в воду, где варился картофель, и прокипятите 10 минут. Эффект увидите сами.

■ «Стрелка» на брюках держится дольше, если вы прогладите их через тряпку, смоченную предварительно слабым раствором уксуса, а затем через влажную толстую бумагу.

■ Чтобы пуговицы не отрывались в стиральной машине, надо предварительно застегнуть одежду на все пуговицы и вывернуть наизнанку.

■ Перед покраской оконных рам натрите стекла половинкой луковицы, тогда потом вы легко снимете со стекол пятна от краски. Лук можно заменить тряпочкой, смоченной в уксусе.

■ Загрязненные обои можно эффективно чистить мякишем белого хлеба, раскатывая его по поверхности пятна.

■ Белый круг, появившийся на полированной поверхности мебели оттого, что на нее поставили горячий предмет, можно уничтожить, протерев его растительным маслом.

■ Мягкую мебель можно выбить, не вынося из комнаты. Для этого необходимо взять влажную тряпку (старую простыню), покрыть ею мебель и выбить пыль тонкой палкой или специальной «камышовкой».

■ Заклинивающиеся ящики столов рекомендуется натереть мылом или парафином (свечкой). После этого они будут открываться легко и без скрипа.

■ Жесткое говяжье мясо становится нежным и легко проваривается, если с вечера его со всех сторон натереть сухой горчицей. Перед приготовлением мясо лучше вымыть в холодной воде.

■ При жарении жир меньше разбрызгивается, если на сковороду посыпать немного соли.

■ Мороженую рыбу при варке надо обязательно класть в холодную воду.

■ Рыба хорошо чистится, если ее слегка потереть уксусом и оставить на некоторое время. Чтобы она не скользила в руках, нужно опустить пальцы в соль.

■ Запах лука можно удалить с металлических столовых приборов, протерев их сухой столовой солью.

■ Перед тем как жарить нарезанный лук, обваляйте его в муке. Тогда он не так быстро подгорает и становится золотисто-желтым.

 



# ГОРОСКОП

**с 24 по 30 июня**


ОВЕН

Сконцентрируйте силы для последнего рывка. К началу июля будут решены многие производственные проблемы и вопросы карьеры. Но опасайтесь начала судебных разбирательств, так что лучше все разводы и раздел имущества перенести на осень.


ТЕЛЕЦ

Некоторый спад в делах. Больше бывайте на природе, отдыхайте с семьей или близкими людьми. Подходящее время для отпуска. Если же срочные дела позовут в дорогу, то лучше максимально сократить поездку и спланировать ее на 29-30 июня.


БЛИЗНЕЦЫ

Огорчит кто-то из деловых партнеров (благо, если это будет просто халатность, а не намеренное мелкое вредительство). Вы также можете попасть в двусмысленную ситуацию из-за неосторожного поведения с влиятельными людьми.


РАК

Период пройдет под знаком дороги: как минимум две поездки за короткий срок, возможно, за границу. Много контактов, перспективных знакомств, вы будете популярны и практически неуязвимы для врагов. Личная жизнь - несколько в стороне.


ЛЕВ

Много работы, как текущей, так и новых дел. В выходные постарайтесь отдохнуть в одиночестве, вам нужно сконцентрироваться и собрать силы в кулак. С понедельника - получение денег, признания заслуг и, конечно же, комплиментов.


ДЕВА

Небольшие домашние проблемы будут сопряжены скорее с недомоганием близких, чем с собственным здоровьем. Держите подальше от воды детей, да и сами не стремитесь переплыть все окрестные водоемы. В остальном - без особых перемен, что, может быть и к лучшему.


ВЕСЫ

С одной стороны, вам не хватает гибкости, а с другой стороны вы подвержены постоянным колебаниям. В конце концов, внутренний конфликт может перерасти в депрессию. Перемены, которые предстоят, примите как данность и максимально используйте их выгодные стороны.


СКОРПИОН

Период будет слега омрачен непониманием со стороны партнера. Но вы довольно долго занимались собой, не слишком вдаваясь в его проблемы, поэтому придется исправлять ситуацию. Возможна потеря незначительной суммы в невыгодной сделке, или мелкая кража.


СТРЕЛЕЦ

Хорошее настроение и отличное самочувствие будут способствовать тому, что вы не только со страстью схватитесь за работу, но и с головой окунетесь в личную жизнь - две- три вечеринки, свидания каждый день и гости 27-28... Не слишком ли?


КОЗЕРОГ

Начинайте планировать отпуск, если вы не сделали этого до сих пор. Проявите в этом максимальную самостоятельность, потому что на вас будут пытаться влиять все - семья, дети, близкие или возлюбленные. Однако ваше решение будет оптимальным


ВОДОЛЕЙ

Если предыдущая неделя не принесла вам больших проблем, то считайте себя счастливчиком, - вы избежали большой конфликтной ситуации и в ближайший период ничто не омрачит вашего покоя. Возможен неплохой доход у торговцев недвижимость.


РЫБЫ

Хороший период для февральских Рыб, а вот мартовских немного подведет самочувствие. Возможны перемены на работе не в вашу пользу: тех, кто делает карьеру, обойдет кто-то из соперников. Звезды в этот период более благосклонны к женщинам, чем к мужчинам.

## Конкурс сучасных прыпевак



***

В магазине коржик взял,
Но никак
не прожевал.
К сапогам его прибил —
Три недели проходил.

***

А мне милый изменил,
Девушки, внимание!
Он нашел и я нашла —
Идет соревнование.

*Ирина Иванова*

***

Я спяваю і танцую,
А вось замуж – аніяк.
Вінаваты мой татуля –
Не будуе асабняк.

***

Не хадзіце, дзеўкі, замуж,
За таго, хто дэпутат.
Будзе спаць
замардаваны,
Абдымаючы мандат.

*Наталля Кніга*

***

Вот придумали беду —
Не подшиты валенки.
Да я к милому пойду
И в одном купальнике.

*Алина Скробутан*

***

Все девчата, как девчата,
А моя, как колобок.
Завалилася в канаву —
Три дня трактором волок.

*Надежда Добриян*

***

У мэра горада спыталі:
— Чаму ржавая вада?
— Не іржа гэта,—
сказаў ён,—
А жалезная руда.

***

Не хочу идти к врачу,
Сам себя всегда лечу.
Принимаю те таблетки,
Где покраше этикетки.

*Светлана Болтик*

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Турлай Ягор
Лаўрыновіч Андрэй
Ігнацік Мікіта
Шундрык Анжэліка
Міскель Дар'я
Хвядчэня Аляксандр
Дэйка Паліна
Плаўская Марыя
Пішчыкевіч Анастасія
Дэмбоўская Вікторыя
Сідарава Аліса



**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**

Блізнюк Анатоль і Місцюкевіч Вольга
Лашчэўскі Валянцін і Герман Ларыса
Хамянок Дзімітрый і Жывулька Наталля
Каронча Юрый і Губчык Ала

**А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК**

# ВЫРАСЛА ХВОЙКА

Савось, мужчына сталага веку, падслепаваты, любіў пажывіцца чужым дабром.

— Савоська, на Замошшы дзялянку рэжуць, — неяк паведаміла яму жонка, — пад'едзь туды, можа бярэзіны на дровы прывязеш.

Савось з удзячнасцю паглядзеў на жонку, запрог каня і паехаў у лес, да якога было кіламетры тры.

Каня з возам ён пакінуў на ўскрайку лесу, а сам няспешна накіраваўся на дзялянку, каб праверыць, ці няма там лесніка.

Ляснік Мікола Гуз яшчэ здалёк заўважыў Савося і схаваўся ў кустах, чакаючы яго. Ён не вылез з кустоў, калі Савось пайшоў на дзялянку, не накінуўся на яго з лаянкай, а зрабіў па-іншаму. Выпраг каня, а воз падцягнуў да хваінкі. Потым запрог каня так, што хваінка апынулася між возам і канём.

Савось жа неўзабаве вярнуўся, усеўся на воз і паганяе каня, каб ехаць на дзялянку:

— Но, Гняды! Но!

А Гняды стаіць, касавурыцца.

— Но, чортава племя! — узлаваўся Савось і сцебануў каня ляйчынай.

Конь пераступіў з нагі на нагу, і — ні з месца.

Савось, мацюкнуўшыся, злез з воза і ўсклікнуў у здзіўленні:

— Што гэта? Пакуль я хадзіў на дзялянку, між возам і канём хвойка вырасла!

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

| | | |
|---|---|---|
| **Бакавец** Пётр Мікалаевіч | 1957 г.н. |
| **Самсонаў** Валерый Анатольевіч | 1969 г.н. |
| **Панасеня** Ганна Цімафееўна | 1912 г.н. |
| **Бобрык** Мікалай Васільевіч | 1938 г.н. |
| **Цішко** Зінаіда Максімаўна | 1947 г.н. |
| **Руды** Міхаіл Паўлавіч | 1921 г.н. |
| **Сторажаў** Мікалай Клімавіч | 1933 г.н. |
| **Васільчук** Уладзімір Сяргеевіч | 1937 г.н. |
| **Ісаева** Яўгенія Іосіфаўна | 1928 г.н. |
| **Чыгрын** Уладзімір Сямёнавіч | 1928 г.н. |
| **Багданчук** Лідзія Герасімаўна | 1939 г.н. |

Выражаем большую благодарность коллективам грузового парка №11, моторемонтного завода, отделению неврологии Слонимского ТМО, родным, близким и соседям за оказание большой помощи в захоронении любимой жены, мамы и бабушки Лидии Герасимовны **Богданчук**.

***Муж, дети, внуки***

## АНЕКДОТЫ

☺ Молодая девушка купила очень смелый купальник-бикини, надела его и показала маме.

— Мам, ну как он?!

— Эх, дочка, если б я его одела, когда была такой, как ты — ты была бы на пять лет старше!!!

☺ Два молодых писателя живут в общежитии. Встречаются на кухне. Первый второму:

— Молодой человек, что вы со мной не здороваетесь? Я хотя и гений, но прост с людьми.

Второй думает: «Два гения на одну кухню - это многовато».

☺ — Какой плохой перевод! Не знаете, кто переводил этот роман?

— Никто, это оригинал.

☺ После лекции на тему «Когда можно будет проводить отпуск на Луне?» был задан вопрос:

— А когда можно будет проводить отпуск в Швейцарии?

☺ В роддоме счастливый отец:

— Батюшки! Двойня!

— Нет, пока один, - успокаивает его медсестра, - а в следующий раз приходите трезвым!

☺ — Папа, откуда берутся слонята?

— Видишь ли, Вовочка...

— Только не рассказывай мне про аиста. Аист его просто не поднимет.

☺ — Папа, это правда, что люди произошли от обезьян?

— Конечно.

— Значит, вы с мамой меня усыновили?

☺ — Скажите, а в Африке пьют на троих?

— Да, но чуть иначе: двое пьют, а третьим закусывают.

☺ Три алкаша выпивают в подворотне. Вдруг один из них отключается и шлепается лицом в грязь. Другой говорит третьему:

— Вот, за что я люблю Васю, так это за то, что он знает, когда остановиться!

☺ Проснулась утром французская девочка, лежит и думает.

— Так, в школу я уже опоздала. Пойду домой.

☺ Собирает утром жена мужа на работу. Отглаженные брюки, рубашка, носочки, шнурочки, завтрак на столе. Муж, уходя на работу в дверях - жене:

— Дай мне немножко денег.

— Зачем тебе деньги?

— Буду идти с работы, встречу кого-нибудь, третьим буду.

— Ты с работы иди прямо домой, нигде не задерживайся - ПЕРВЫМ будешь!

☺ — За что двойку получил, сынок?

— За Бастилию, папа!

— А че это?

— Крепость такая!

— Сколько градусов?

— Не знаю, штурмом брали!

— Значит, крепкая, зараза!

☺ Внук из города приехал к деду в деревню. После того, как дед показал все хозяйство, внучок заскучал. Дед говорит:

— Почему бы тебе не взять собак, ружьишко и не сходить в лес пострелять? Внук обрадовался и пошел. Через час вернулся, возбужденный:

— Дед, а у тебя еще собаки есть?

☺ Объявление. Для проведения предвыборной кампании кандидату в депутаты от КПРФ требуются БЕШЕНЫЕ БАБКИ (150-200 чел.)

☺ Подари мне свою фотографию, я ее в буфет поставлю, чтобы дети за конфетами не лазили.

## КРОССВОРД *от Владимира ВАШУТЫ*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**

**5**. Сухие съестные товары. **6**. Женское имя. **8**. Пьеса Г.Ибсена. **11**. Итальянский футбольный клуб. **12**. Женское имя. **13**. Зодиакальное созвездие. **14**. Малая планета. **16**. Отдельно стоящая главная башня феодального замка, служившая убежищем при нападении неприятеля. **18**. Перелетная птица. **23**. В старину: лицо, публично объявлявшее что-либо народу, публике. **25**. Помилование. **26**. Старинная мера пахотной земли. **27**. Река в Южной Америке. **28**. Крупное музыкально-драматическое произведение. **31**. Вид атмосферных осадков. **33**. Старинная южнорусская и белорусская одежда замужних женщин, род юбки. **35**. Поле, вспаханное с осени для посева яровых весной. **36**. Преступник. **38**. Войсковое подразделение. **39**. Наклонная поверхность. **40**. Водный проект. **42**. Спортивный снаряд. **43**. Звание высшего командного состава в армии.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**

**1**. Крытая повозка. **2**. Лицо, пользующееся неограниченной властью в государстве. **3**. Знатный и богатый сановник. **4**. Мужское имя. **6**. Бесцветная летучая жидкость со специфическим запахом. **7**. Река в России. **9**. Постель, ложе (устар.). **10**. Дугообразное перекрытие. **15**. Штат в США. **17**. Правитель административного округа, наместник фараона в Древнем Египте. **19**. Наука о развитии общества. **20**. Футболист сборной России, забивший два мяча французской сборной в отборочном матче чемпионата Европы. **21**. Столица Адыгейской автономной области. **22**. Единица измерения жидкостей и сыпучих веществ. **24**. Пространство в восточной части церкви, где находится алтарь. **29**. Крупная змея семейства удавов. **30**. Собственноручная подпись, надпись. **32**. Хозяйственный центр колхоза, совхоза. **34**. Известный русский адвокат. **35**. Военный сигнал на горне, трубе в часы подъема и отхода ко сну. **37**. Судьба. **41**. Полудрагоценный камень. **42**. Мужское имя.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№26)**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 6**. Контрибуция. **8**. Грань. **10**. Парник. **11**. Помпон. **14**. Мина. **16**. Баритон. **17**. Блин. **18**. Диверсия. **19**. Централь. **21**. Кара. **22**. Манекен. **23**. Кино. **26**. Кираса. **27**. Реликт. **28**. Рокот. **30**. Воображение.

**ПО ВЕРТИКАЛИ: 1**. Молния. **2**. Итог. **3**. Династия. **4**. Тушь. **5.** Символ. **7**. Ратификация. **9**. Поликлиника. **12**. Капитал. **13**. Гобелен. **15**. Арена. **17**. Бирюк. **20**. Демократ. **24**. Острог. **25**. Персик. **28**. Роба. **29**. Трек.

 

 



# ЗМІРЫЛІСЯ З ПАРАЖЭННЕМ?

**Два разгромных паражэння пацярпеў слонімскі "Камунальнік" у апошніх двух матчах чэмпіянату Беларусі.**

16 чэрвеня ў Гомелі слонімцы прайгралі з лікам 0:3 мясцоваму ЗЛіНу. Наша каманда ў тым матчы выглядала бездапаможна, у адрозненні ад гаспадароў, якія дамініравалі на полі. За ўвесь матч футбалісты "Камунальніка" зрабілі па варотах ЗЛіНа толькі два ўдары...

Гаспадары адкрылі лік на 16 мінуце, калі, пасля розыгрышу вуглавога, Асмыковіч прыгожа "стрэліў" у левую ад Бекіша "дзевятку". Другі і трэці мячы забіваліся ў сітуацыі, калі наш варатар марудзіў, а абаронцы разгубіліся... Толькі ў другім тайме на поле выйшаў Татарашвілі, але футбалісты ЗЛіНа цалкам выключылі яго з гульні.

20 чэрвеня "Камунальнік" прымаў на сваім полі "Палессе" з Мазырскага раёна. Як высветлілася, каманда прыехала з пасёлка Казенкі, якога на карце мне адшукаць не ўдалося...

"Камунальнік" гуляў у наступным складзе: Кіркіж, Капельян, В.Дзегіль, А.Дзегіль, Селіванаў, Ягаўцоў (Дубінін, 46), Уладзімірскі, Савіцкі (Раманаў, 64), Баль (к), Савань (Аначанка, 55), Татарашвілі. Матч традыцыйна пачаўся з атак слонімцаў. Увесь першы тайм яны "штурмавалі" вароты гасцей. Як мінімум, у сямі момантах проста абавязаны былі забіць, але... Хтосьці скажа, што не шанцавала. Тым не менш было відавочна, што нашым футбалістам не хапае майстэрства пры завяршэнні атак.

Госці гулялі на контратаках, пакідаючы вялікія сілы ў абароне. Але ў першай палове гульні небяспекі каля варот "Камунальніка" не стварылі. А вось у другім тайме "Палессе" узяло ініцыятыву ў свае рукі. На 48 мінуце выходзіць да варот Кіркіжа Ігар Сцеблін і не прамахваецца — 0:1. Праз шэсць мінут прыгожы гол забівае Сяргей Трунін, які па дузе адправіў мяч, міма Кіркіжа, у верхні вугал варот — 0:2...

Наша абарона бяздзейнічала. Слонімцы не паспявалі за хуткімі нападаючымі "Палесся", якія лёгка праходзілі да варот. Звычайна, у падобных сітуацыях "Камунальнік" "ламаецца" і толькі дагульвае матч. Так здарылася і на гэты раз. Слонімцы змірыліся з паражэннем. Чарговы гол Труніна на 80 мінуце завяршыў разгром "Камунальніка". Пасля яго балельшчыкі дружна пакідалі стадыён...

Два факты для роздуму.

Калі "Камунальнік" ехаў на матч у Гомель, каля Бабруйска зламаўся клубны аўтобус. Дапамагала "Белшына", якая пазычыла слонімцам аўтобус... Ужо другую гульню запар на стадыёне "Юнацтва" не працуе электроннае табло. Нібыта не хоча высвечываць ганебныя для слонімцаў лічбы...

**Алег ТАЧОНЫ**



Фота Мікалая СУПРУНА

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА пасля 11-га тура

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Камунальнік (Св.) | 11 | 5 | 5 | 1 | 17:13 | 20 |
| 2. Граніт | 11 | 5 | 4 | 2 | 18:13 | 19 |
| 3. Дынама-Юні | 11 | 5 | 4 | 2 | 18:13 | 19 |
| 4. Ведрыч-97 | 11 | 4 | 6 | 1 | 20:14 | 18 |
| 5. Тарпеда | 11 | 4 | 5 | 2 | 20:16 | 17 |
| 6. Палессе | 11 | 4 | 5 | 2 | 16:14 | 17 |
| 7. Рагачоў | 11 | 3 | 7 | 1 | 15:10 | 16 |
| 8. ЗЛіН | 11 | 4 | 3 | 4 | 17:11 | 15 |
| 9. Камунальнік (Сл.) | 11 | 4 | 3 | 4 | 15:18 | 15 |
| 10. Орша | 11 | 3 | 6 | 2 | 16:13 | 15 |
| 11. Нёман | 11 | 3 | 4 | 4 | 17:17 | 13 |
| 12. Керамік-Бяроза | 11 | 3 | 3 | 5 | 11:17 | 12 |
| 13. Зорка-ВА-БДУ | 11 | 2 | 5 | 4 | 11:19 | 11 |
| 14. Вейна-Днепр | 11 | 2 | 4 | 5 | 10:19 | 10 |
| 15. Пінск-900 | 11 | 2 | 3 | 6 | 12:14 | 9 |
| 16. Віцьбіч-Дынама-Энерга | 11 | 0 | 3 | 8 | 12:24 | 3 |

сезон-99 • 1-я ліга • сезон-99 • 1-я ліга

**Вынікі астатніх матчаў 11-га тура:**

Рагачоў — Орша .......... — 2:2
Тарпеда — Граніт .......... — 3:1
Камунальнік Св. — Віцьбіч-Дынама-Энерга ... — 4:3
Дынама-Юні — Вейна-Днепр .......... — 1:1
Нёман — ЗЛіН .......... — 2:2
Зорка-ВА-БДУ — Ведрыч-97 .......... — 2:1
Пінск-900 — Керамік-Бяроза .......... — 1:2

# "КОММУНАЛЬНИК" НЕ ОПРАВДЫВАЕТ НАДЕЖД. ПОКА

**Чемпионат Беларуси по футболу в первой лиге подходит к своему экватору. Анализируя выступление слонимского "Коммунальника", уже сейчас можно сделать определенные выводы.**

Как и в прошлом году, команду лихорадит. После неплохих матчей часто наступают провалы, которые усложняют турнирное положение "Коммунальника". Первая лига на поверку оказалась не проходным двором, а серьезным испытанием на мастерство, характер и волю к победе... На сегодняшний день большинство команд примерно равны по силам и имеют одинаковые шансы в борьбе за выход в высшую лигу.

В чем причины последних поражений "Коммунальника"? Были ли издержки в предсезонной подготовке команды и в селекционной работе? Чего ждать болельщикам от ближайших матчей нашей команды? С этими вопросами корреспондент "ГС" обратился к генеральному менеджеру ФК "Коммунальник" Геннадию Бабошкину. Вот что он рассказал:

— Действительно, на сегодняшний день команда находится в определенной психологической "яме", что подтвердили последние три игры, проигранные "Коммунальником" с общим счетом 2:10...

"Коммунальник" неплохо прошел предсезонную подготовку, в двух турнирах на Кубок Полесья боролся за первое место, выиграл Кубок Гродненской области. К началу чемпионата футболисты были на очень хорошем физическом уровне. Так было до начала июня, когда начался спад, который совпал по календарю с матчами с очень серьезными соперниками.

Я бы не сказал, что наша команда в каких-то играх уступала соперникам именно по игре. "Коммунальник" много атакует, создает моменты, имеет территориальное преимущество, но позиционные ошибки в обороне, которые усугубились травмой ведущего защитника Дыма, и нестабильная игра вратарей, перечеркивают всю игру... Неуверенно играют крайние защитники. Капельян, который долго "возвращался" в нашу команду, пока не смог набрать необходимую форму. Неуверенно играет Селиванов, последний защитник, который не оправдывает надежд. Много было надежд и на опытного Куприкова.



Фота Мікалая СУПРУНА

Возьму на себя смелость утверждать, что мы, как руководители клуба, не доработали предсезонную подготовку в трансферной политике. Мы планировали, что в команде будут центральные полузащитники Гумеров и Агейчик, но в конечном итоге в составе "Коммунальника" на старте чемпионата их не оказалось. Это, конечно, дало о себе знать. Возлагали надежды и на связку полузащитников Баля и Еговцова, на Савицкого. Но получилось так, что по разным причинам, надежды эти не оправдались. Савицкий в последних матчах выходит с травмой. У Баля какой-то психологический надлом и расстерянность. А Еговцов, похоже, не соответствует уровню этой лиги. Не было бы больших претензий к нападающим, если бы в последних двух матчах они не забили ни одного мяча. Это нонсенс — создавать в матче 5-8 моментов и не забивать...

Тем не менее, большой трагедии я не вижу. Даже сегодняшнее 9-ое место "Коммунальника", учитывая небольшое отставание от лидеров, оставляет нашей команде шансы бороться за призовое место. Паники в команде нет, но звоночек уже прозвинел, и нам нужно думать над усилением игры. Да, сегодня молодежь подрастает, но она не вышла на определенный уровень для решения серьезных задач, а нам результаты нужны уже сейчас. На данном этапе мы усиленно ведём селекционную работу. Думаю, что в межсезонье в "Коммунальнике" появятся игроки, которые усилят среднюю линию и защиту.

Во вторник, 22 июня, состоялось собрание команды. На нем тренерскому штабу было высказано доверие, были определены задачи по выходу из сложившейся ситуации. Были выслушаны и учтены пожелания футболистов по улучшению материальной базы, упорядочиванию финансирования клуба. С игроками состоялись и индивидуальные беседы.

Будем надеяться, что в предстоящих играх "Коммунальник" порадуют нас хорошей игрой и долгожданными победами. Ждем, что наши верные болельщики поддержат свою команду в трудную минуту.

**Записал Сергей ЁРШ**

**P.S.** 26 июня "Коммунальник" играет в гостях с командой "Вейно-Днепр", а 30 июня на своем поле принимает витебский "Витьбич-Динамо-Энерго".

# КУБАК КАСЦЁЛА — У "МАРЫІ"

**Днямі закончыўся трэці штогадовы турнір па міні-футболу на кубак касцёла Св. Андрэя сярод дзіцячых дваровых каманд. Дваццаць шэсць каманд (каля 300 дзяцей!) за 17 дзён правялі 88 матчаў, у якіх забілі 306 галоў.**

У матчы за трэцяе месца сустракаліся "Парма" (Брэсцкая вуліца) і "Талент-Альбярцін-2". Футбалісты "Таленга" упэўнена кантралявалі ход гульні, як на трэніроўцы разыгрывалі мяч і забівалі галы. "Парма" супраціўлялася, як магла, але ўпускала нават тыя нешматлікія зручныя моманты, якія ўдалося стварыць. У выніку — 6:0 на карысць "Талента-Альбярціна-2".

Фінальны матч паміж камандамі "Марыя" і "Талент-Альбярцін-1" быў гульнёй роўных сапернікаў. На полі хапала барацьбы, адзінаборстваў, але было мала ўдараў па варотах. У такіх матчах, звычайна, усё вырашае адзіны гол. Так і сталася. За некалькі мінут да канца другога тайма выдатным ударам пад перакладзіну перамогу "Марыі" прынёс Алег Семянковіч.

Кубак касцёла "Марыя" атрымала заслужана. У 10-ці гульнях каманда перамагла 10 разоў, забіла 56 мячоў і прапусціла толькі тры. Самы буйны лік на турніры на рахунку "Марыі" — 18:0 (перамога над "Атакай"). За "Марыю", якую трэніруюць Мікалай Лажэчнікаў і Аляксандр Кадаўбік, выступалі: Андрэй Гайдук, Мікалай і Уладзімір Лажэчнікавы, Дзмітрый Савіч, Аляксандр Кузін, Алег Семянковіч, Вадзім Шчаюк, Ілля Радкевіч, Віктар Емяльянчык, Ігар Трусаў, Ігар Ляшэвіч, Раман Несцяровіч, Арцём Багаеў, Алег Іваноў, Гоша Максіменка і Сяргей Жамойдзік. Арганізатар і галоўны спонсар спаборніцтваў Мікалай Лажэчнікаў адзначыў байцоўскія якасці "Талента-Альбярціна-1". "Каманда ў многіх матчах удзельнічала ў няпоўным складзе, але выйгравала", — сказаў Лажэчнікаў.

З нецярпеннем чакалі юныя футбалісты абвяшчэння арганізатарамі і спонсарамі лепшага ігрока турніра, якому павінен быў дастацца каштоўны прыз — спартыўны веласіпед (падарунак упраўлення магістральных газаправодаў, начальнік Юрый Бяссонаў). Лепшым іграком быў прызнаны вучань восьмага класа дзесятай школы Віктар Емяльянчык ("Марыя"), які і стаў уладальнікам веласіпеда (на здымку).




Сёлета на турніры было каля 12 прэтэндэнтаў на званне лепшага бамбардзіра. Аднак у апошніх матчах адарваўся ад сваіх сапернікаў нападаючы "Талента-Альбярціна-1" Андрэй Осіпаў, на рахунку якога 16 забітых мячоў. Лепшым нападаючым быў прызнаны Віталь Рудзько ("Рэзкі"), варатаром — Віктар Коўчун ("Талент-Альбярцін-1"), капітанам — Мікалай Дабрыян ("Талент-Альбярцін-2"), абаронцам — Раман Несцяровіч ("Марыя"), разыгрываючым — Яўген Сакалоўскі ("Талент-Альбярцін-1"). Прыз самага валявога ігрока атрымаў Юрый Курцэвіч ("Парма"), які быў траўміраваны ў адным з матчаў, але не пакінуў поле, а працягваў гуляць. Самым прагрэсіруючым іграком быў названы Мікалай Лажэчнікаў ("Марыя").

Самы хуткі гол на турніры забіў Дзмітрый Савіч ("Марыя"). Ён быў узнагароджаны гадзіннікам, прызом рэдакцыі "Газеты Слонімскай". Намеснік рэдактара "ГС" Сяргей Чыгрын, які ўручаў прыз, пажадаў пераможцу і астатнім юным футбалістам, каб яны ў будучым "на самых вялікіх футбольных стадыёнах забівалі "хуткія" галы".

Арганізатары турніра вельмі ўдзячны слонімскаму касцёлу Св. Андрэя, на полі якога праходзілі матчы, а таксама кіраўніцтву мясакамбіната, аднаму са спонсараў.

Акрамя пераможцаў, хацелася б адзначыць такія добрыя каманды, як "Слонім-Юнайтэд" (вуліца Сінічкіна), "Мілан" (вуліца Тапалёвая), "Спортынг" (праспект Незалежнасці), "Рэзкі", "Парма". Магчыма, у наступным годзе фартуна ўсміхнецца і ім.

**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

 